# НА МЯЖЫ

## АБ ПРАМІНАННІ (V)

У спадчыне беларускай пісьменніцы Цёткі ёсць недаацэненае крытыкамі апавяданне „Асеннія лісты“. Яго героі — старыя людзі — задумваюцца над стрымгаловым бегам часу. Адзін з іх гаворыць, што „жыццё, як муха — бзззы і праляцела“. Так яно і сапраўды ёсць.

З факта прамінання розныя людзі робяць вельмі розныя, часам супрацьстаўныя вывады. Адны гавораць: у сувязі з тым, што жыццё страшэнна хутка прамінае, трэба як найхутчэй спяшацца, старацца зрабіць як найбольш карыснага і сэнсоўнага. Другія даказваюць адваротнае. Паводле іх: у сувязі з тым, што жыццё і так, і так заканчваецца смерцю, таму ўсе імкненні, намаганні і дзеянні чалавека пазбаўлены сэнсу. Смерць усіх раўняе: і слаўных, і невядомых, і багатых, і бедных. і працавітых, і лянівых. Ці ж у сувязі з такім фіналам кожнага чалавечага жыцця маюць сэнс усе нашы стаpанні, працавітасці, узбагачэнні і славы? Разам з адыходам чалавека з зямлі пад зямлю ўсё гэта беспаваротна канчаецца. Няўжо ж не лепш у такой сітуацыі жыць толькі сённяшнім днём, жыць бесклапотна і лёгка?

З такім поглядам розных людзей, у тым ліку і тых, якія адносяцца да мяне прыязна, я асабіста сустракаюся вельмі часта. Гэта яны, напаткаўшы мяне з фураю гною, з касой на плячы, з плугам ці з лапатай, неадменна гавораць:

— Навошта гэта табе? Ты ж без гэтай дурацкай работы можаш жыць сабе панком і квіта!

Многія з іх, хаця гэтага і не гавораць, упэўнены, што мая праца на раллі звязана з бязмежнай прагавітасцю, з імкненнем да матэрыяльнага ўзбагачэння. Яны не ведаюць, што я, працуючы на зямлі, не толькі не маю з гэтага матэрыяльнай карысці, але да гэтага дакладаю. І калі б той час, які прысвячаю працы на раллі, прысвяціць, для прыкладу, на літаратурныя пераклады, дык сапраўды зарабіў бы я значныя грошы. Бедныя, не разумеюць, што праца на зямлі для мяне — безупынная форма праверкі сваёй фізічнай сілы і перш за ўсё — праверкі сваёй таясамасці, свайго адвечнага сялянскага атрыбуту, без якога я не быў бы я.

І так, не асуджаючы катэгарычна ні тых, якія з факта прамінання робяць вывад аб неабходнасці творчай ці прадукцыйнай актыўнасці, ні тых, хто схіляецца да жыццёвай пасіўнасці, хочацца мне сказаць, што я асабіста лічыў бы сваё жыццё пазбаўленым усялякага сэнсу, калі б яно не было запоўнена акрэсленымі дзеяннямі. Думаецца мне, што калі б я не жыў у безупынным бегу, калі б не разрываўся паміж Варшавай і Бандарамі, універсітэтам і гаспадаркай, паэзіяй і дыдактыкай, публіцыстыкай і сустрэчамі з людзьмі, жыццё маё было б пустое. Скажу болей: не ведаю, ці ўвогуле яшчэ жыў бы. Рух і дзеянне, праца і імкненні якраз і з'яўляюцца супрацьдзеяннем на прамінанне. Толькі праца дапамагае забыць чалавеку аб праміnанні, аб самотнасці, аб смерці і толькі з яе б'е адвечная крыніца веры ў сэнс чалавечага жыцця і нашага існавання на зямлі.

Са сказанага можа здавацца, што я лічу сябе выключна працавітым чалавекам. Гэта, на жаль, не так. Калі параўнаю сябе са сваімі бацькамі або са сваёй сястрой, дык, у істоце, я вялікі лодар. І таму вельмі часта маю ахвоту сказаць памяці маіх бацькоў і роднай зямлі: „Прабачце, што за такое многае і добрае, атрыманае ад вас, заплаціў я такім малым і благім“. А прамінанню прагну крыкнуць са злосцю: „Не прызнаю цябе і квіта!“ **Алесь Барскі**



(Працяг са стар. 1)

# ПЯЦЬ ДЗЁН У ГАСЦІНЕ

беларускія: авёс „Буг“ — 71 ц/га і бульбы „Ласунак“ — больш за 500 ц/га.

Загадвае выпрабавальным участкам доктар сельскагаспадарчых навук Уладзімір Цітоў. З зацікаўленнем слухаем яго займальныя апавяданні пра станоўчыя бакі і капрызы розных раслін, глядзім на роўненькія, чысценькія, выпешчаныя загончыкі некалькігектаровага вопытнага ўчастка і абшырныя калгасныя палеткі і бачым, як тут заціраецца мяжа паміж навукай і практыкай, працай вучонага і працай земляроба-селяніна. Але не толькі тое.

У цэнтральнай сядзібе калгаса, на скверыку, абсаджаным ірдзістымі кветкамі і шапаткім бэзам, узвышаецца помнік. На пастаменце бронзавы бюст юнака. На натхнёным твары — імклівасць, цікаўнасць да жыцця, свету.

Славуты партызан ці герой на адным з франтоў у апошнюю вайну? Папулярны паэт або пісьменнік? Вядомы кампазітар? Зусім не! На пастаменце залатымі літарамі напісана: „Станіслаў Іосіфавіч Клімак, 22 гады жыцця. Загінуў, ратуючы калгасны дабытак“.

На нашыя дапытлівыя позіркі старшыня А. Ярох паясняе:

— Стась працаваў у нашым калгасе жывёлаводам-пастухом. Быў салідным, працавітым хлопцам. Ад кароткага замыкання загарэлася ферма, а ў ёй стаяла болей сотні кароў. Стасік прыбег першы ратаваць жывёлу. З полымя вывеў 96 кароў. Кінуўся па апошнія 10. Не паспеў: рухнулі палаючыя скросы, і ён загінуў пад імі.

Моўкне, пазірае на хлапечы, валявы твар на помніку і дадае:

— Увесь наш калгас аднагалосна вырашыў увекавечыць памяць пра Стася. Паставілі мы яму помнік, яго імем назвалі нашу жывёлагадоўчую ферму. Нашы піянеры назвалі яго імем свой піянерскі атрад, а ў школьным музеі стварылі спецыяльны, прысвечаны Стасю, аддзел. Беларускі пісьменнік Уладзімір Ліпскі прысвяціў яму адзін з раздзелаў свае кнігі „Раны“. І так Стась застаўся жыць з намі.

Акідваю позіркам ірдзістыя кветкі, што схіліліся да падножжа помніка, кусцісты бэз навокал яго. У думках б'ецца назойлівае пытанне: „Ці ёсць на свеце яшчэ такая краіна, у якой ставяць помнікі пастухам?“

Накіроўваемся на калгасную будаўнічую пляцоўку. У будове некалькі дзесяткаў домікаў. Брыгада будаўнікоў кладзе тратуар, а паабапал яго красуецца шарэнга ўжо гатовых элегантных двухпавярховых вілаў. Атынкаваных, памаляваных. У канцы абгароджаных зграбнымі плоцікамі агародчыкаў — невялічкія гаспадарчыя будынкі. Каля некаторых домікаў ужо тупаюць гаспадары.

— Гэта першая чарга з 76 домікаў, якія цяпер будуем, — тлумачыць сакратар А. Чашчавік.

— Потым будуць наступныя чэргі. У бліжэйшыя гады паўстане цэлы пасёлак на 1200 жыхароў. Будзе тут школа-дзесяцігодка, культурна-адпачынкавы цэнтр, спартыўны зал з плавальным басейнам, прадшколлі, камбінат бытавых паслуг.

— Каму гэта ўсё і чыім коштам? — пытаюся.

— Як то чыім? — са здзіўленнем перапытвае сакратар. — Коштам калгаса, вядома. Ды не малым коштам, бо кожны такі домік абыходзіцца ў 50-60 тысяч рублёў. Але за ўсё плоціць калгас са сваіх сродкаў. А яны ў яго не малыя, бо ў мінулым годзе за пастаўкі дзяржаве ён атрымаў паўтара мільёна рублёў чыстага даходу. Значыць, мае за што будаваць. А будуе для калгаснікаў, перш за ўсё для маладых сем'яў. За такое жыллё яны будуць плаціць не болей, як плоцяць за звычайную кватэру ў горадзе.

Уваходзім шумлівай грамадою ў адзін з домікаў. Гаспадар гасцінна вітае, паказвае кухню, сталовую, пакоі. Светла, чыста, ладная мэбля і абсталяванне, дыван.

Надвячоркам доктар сельскагаспадарчых навук Ірына Сяргееўна Шуміліна абводзіць нас па эксперыментальнай базе Гродзенскай абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі „Шчучын“, у якой яна працуе загадчыкам аддзялення насенневодства і гатунковай агратэхнікі. А база — гэта аграмадная гаспадарка на амаль 3 тысячы гектараў. Штогод тысячы тон насення рознага збожжа, бульбы, пашавых раслін ідуць у калгасы і саўгасы Гродзеншчыны і іншых рэгіёнаў рэспублікі і краіны. Высокія плёны і вялікія даходы. На вопытных участках нейкія невядомыя яшчэ новыя расліны. А ў аддзеле садаводства старшы аграном Марыя Францаўна Блавацкая вядзе нас у духмяную плантацыю бэзу — сірэнарый, у якім расце, цвіце і пахне рознымі колерамі і самымі дзівоснымі кветкамі 47 гатункаў бэзу. Аграном, між іншым, заўважае, што ў мінулым годзе яе аддзяленне выгадавала і прадало іншым гаспадаркам каля 170 тысяч саджанцаў пладовых дрэў. І падкрэслівае, што вялікім попытам карыстаецца яблыня „Спартан“, якую выгадаваў польскі прафесар... Ш. Пенёнжак у Скерняўіцах!

У Шчучыне развітваемся з сімпатычнай сакратаром прапаганды райкома Людмілай Платонаўнай Паповай, якая знаёміла нас са Шчучынскім раёнам і яго людзьмі.

А людзей у іх шануюць!

**М. Гайдук**
Фота аўтара



У новым пасёлку калгаса „1 Мая“ Шчучынскага раёна.

Здараліся выпадкі, што гаспадары, маючы некалькі дочак, не ведалі, якой з іх цікавіцца сваты. У такой сітуацыі стараліся яны высніць гэту праблему. Наогул, аднак, ніколі не ставілі непасрэднага пытання і стараліся высвятліць свае сумненні алегарычнымі пытаннямі. Для прыкладу, гаварылі: „Нашае стада складаецца з некалькіх цялушак і мы не ведаем, якая з іх вас цікавіць?“ Сваты наогул не ўжывалі імя дзяўчыны, толькі апісальным спосабам стараліся высветліць, да якой з дачок яны прыйшлі сватацца. Даволі часта сваты не былі ў стане не толькі назваць імя дзяўчыны, але нават найбольш агульна яе сахарактарызаваць. Такія выпадкі бывалі тады, калі сваты прыехалі з адлеглай мясцовасці. А такія выпадкі не належалі да рэдкіх. Здараліся яны тады, калі хлопец абышоў усіх адпаведных для яго дзяўчат у сваёй вёсцы і ў суседніх вёсках і ўсе старанні не прывялі да станоўчага выніку. Апынуўшыся ў цяжкім становішчы, вельмі часта ён падаваўся ў сваты ў адлеглыя вёскі, даведаўшыся ад бліжэйшых ці далейшых знаёмых аб тым, што ёсць недзе адпаведная кандыдатка на жонку. Не заўсёды нават тыя, хто раіў, ведалі, якое яе імя. У такой сітуацыі сваты мусілі выкручвацца іншасказальнымі акрэсленнямі і прыблізнай характарыстыкай.

Пасля ўступнай фазы бацькі раіліся паміж сабой адносна таго, ці прыняць сватоў. Працягвалася гэта надоўга.

Пасля таго гаспадары згаджаліся прыняць або не прыняць сватоў. Тут маці ці бацька давалі алегарычны, але адназначны адказ. Для прыкладу, гаварылі, што дазваляюць купцам або паляўнічым паглядзець „тавар“ ці „жывіну“. Калі не згаджаліся прыняць сватоў, дык заяўлялі, што іх цялушка або




жаробка яшчэ маладая і не надаецца, каб хадзіць у пары. Цікава, што іншасказальны і алегарычны характар размовы сватоў і гаспадароў утрымліваўся на працягу цэлых стагоддзяў. На пацвярджэнне гэтага сцвярджэння варта прывесці фрагмент з даследавання З. Глогера з паловы XIX стагоддзя. Каштоўнасць яго паглыбляецца тым фактам, што датычыць яно вёсак, якія знаходзяцца на паўночных ускраінах Белавежскай пушчы:

„W okolicach Białowieskiej Puszczy u źródeł Narewki a dalej Narwi marszałek mówi do matki dziewczyny: „Pryszli my kupić tu kwiatka, co cwite w letku". Jeżeli radzi swatom — to proszą ich siadać, jeżeli nie — to matka odpowiada: „Niechaj ćwicie, bo jeszcze mołoda". Zdarza się tu, że dziewczyna nierada z odpowiedzi matki, przeczy matce, że już nie młoda i dawno jej czas iść za mąż".

Даследуючы раён Нараўкі і Нарвы, мы нідзе не сустрэліся з формулай, прыведзенай Глогерам. Аднак варта падкрэсліць, што выключаючы выступаючыя ў ёй моўныя памылкі, якія вынікалі з недасканалага ведання беларускай мовы польскім даследчыкам, формула гэта поўнасцю змяшчаецца ў нормах той алегарычнасці, якая абавязвала ў часе першай фазы сватання. Большага крытыцызму вымагае тая частка выказвання Глогера, якая датычыць рэакцыі сватанай дзяўчыны. З яе вынікае, што дзяўчына супрацьстаўляецца волі маці. З інфармацыі найстарэйшых жыхароў Беласточчыны вынікае, што такія паводзіны дачкі былі немагчымы, што нават там, дзе адносіны паміж маткай і дачкой былі не надта добрыя, у часе сватоў дачку абавязвала безварунковая паслухмянасць і падпарадкаванасць волі бацькоў.

**А. Баршчэўскі**



Чорная Беластоцкая. Фота Я. Целушэцкага.

# „Гома сапіенс“

2

У першым месяцы акупацыі, ратуючыся ад вывазу ў Германію, я мусіў пайсці ў рамонтную брыгаду забіваць кастылі. У брыгадзе пераважалі такія, што прытаіліся на пуці ды чакалі адпаведнага моманту. Але людзі-механізмы, нявольнікі інерцыі ды закаранелых звычак, бы дзядзька Юравец, не давалі дыхнуць.

Рамонтнікаў узначальваў пажылы селянін з Грыбава Якуб Абрамовіч. На такую пасаду — трэба аддаць яму справядлівасць — дзядзька не навязваўся. Як было ў звычцы немцаў, так і шэф Марквас, выстраіўшы рабочых па ранжыру, абвёў іх вачыма, ткнуў у сярэдняга пальцам ды аб'явіў:

„Фон гойтэ аб вірст ду фюрэр, фэрштэйст ду, думкопф?“

Дзядзька Якуб не бегаў з даносамі да немца, калі сваім узроўнем ці шаблонам выяўляў, што ты скрывіў рэйку альбо не туды загнаў кастыль. Чалавек вымаў паламаныя акуляры, перавязаныя нітачкай, уважліва прыглядаўся да шкла прыбора, бурчаў праклён ды ў час абедзеннага перапынку заставаўся выпраўляць брак. Але ж і ты сам ужо тады не мог раўнадушна глядзець, як з-за цябе пажылы селянін надрывае пуп, — валокся дапамагаць.

Якуб ані мінуты не сядзеў без дзела, усё вымяраў ды падганяў, лічыў ды пералічваў, чысціў ды шмараваў алівай ці мазутам старцовыя ключы, лапы, падкладкі, шрубы, кастылі, нават рэйкі ды ўвесь час ламаў галаву: хопіць гэтага дабра, каб пракласці новыя гоні пуці ці пасылаць на станцыю ваганетку?

Дзядзькаў участак заўсёды быў у ідэальным парадку. Аднойчы я падслухаў, як Марквас хваліўся жандару:

„Гэты абарыген — ювелір сваёй справы! О-у, о-у, спецыяліст. майн гот!“

З той пары, калі мне кажуць пра кагосьці, што ён, вядома, як чалавек дрэнь і дубіна, аднак цудоўны спецыяліст, перад вачыма ўзнікае дзядзька Якуб з Грыбава, а я сабе кажу — ну іх к д'яблу, такіх спецыялістаў. Што ж, каб так казаць, я маю прычыны. **Аляксей Карпюк**

## Легенды нашай зямлі

### АД ХАЛЕРЫ

Расказваюць найстарэйшыя людзі ў вёсцы.

Было гэта даўным-даўно. Самыя старыя ведаюць расказ ад сваіх бабулек і дзядоў, а тыя ад сваіх бабуль і дзядоў. У вёсцы Катлы панавала страшэнная зараза — халера. Не было такога дня, каб хтосьці не паміраў. Людзей трэба было недзе хаваць. Ну і выбралі месца каля Грыневіч, дзе і дагэтуль знаходзяцца могілкі.

Значна больш людзей памерла б, каб не адно здарэнне. А вось яно. Прысніўся адной жанчыне сон: трэба напрасці і вы-

(Працяг на стар. 11)

## Замалёўкі з жыцця

### ЯК ХЛОПЦЫ З БАЯРАЎ ЕЎРОПУ ЗАВАЁЎВАЛІ

Дзе я не працаваў! Цяпер? Кінуў. Надакучыла мне цаглінамі перакідацца. Па спецыяльнасці я механік. Думаў майстэрню ставіць, ды цяпер нашыя Баяры будуць развальваць к чортавай мацеры, і няма чаго тут пачынаць. Агароды, панадворкі зраўняюць, дачы паставяць, а нас — кожнага ў клетку з балкончыкам. Маё дзіця цяпер спакойна бегае, босае, быццам у вёсцы, па панадворку, а пасля?

Ну... Баяры то калісь былі Баяры! Хлопча, Беласток цэлы быў наш! Мой быў! У каго першыя джынсы былі? У каго першая „сімка“? Матор ажно буяў, калі закрунешся па Сланімскай. Ніхто не падскочыць. Я быў такі спартсмен, што го-го! На гімнастыку хадзіў, з Луцыяй Прус на канькі, кропелькі ў рот не браў. А пасля і спорт, і школу чэрці ўзялі...

Працаваў я ў транспарце. Нагрузяць што ў нашыя разбітыя „стары“, а мы і возім гэтае барахло па цэлай Польшчы. Машыны такія, што не ведаеш, ці давязеш, куды цябе паслалі, ці на паўдарозе раскірачышся, ці за Беластокам узарвешся. Даязджалі мы брудныя, чорныя ад дыму, пылу і змазкі. Зморанымя так, што і языком не павернеш. Але вазілі мы з сабою чыстыя касцюмы і кашулі. Памыемся, адзенемся і пайшлі хлопцы Еўропу заваёўваць!

Заехалі мы ў Познань. Пад'язджаем да гасцініцы — а ўжо парцье бяжыць, рукамі махае, каб мы нават не ўязджалі сваім заскарэлым „старам“ на панадворак. Бач яго — Еўропа! Стаяць „мерседэсы“ ўсялякія, куды тут нашу гаргару ўпіхаць. Чаму ж не, стаяць два „ТІР“ы, але і гэта Еўропа. Сунулі мы парцье 100 зл у лапу — пусціў. А тады, ведаеце, паўлітра каштавала 75 зл.

Нанялі мы пакой, памыліся, пераапрануліся. Заходзім у рэстаран, глядзім у меню. Язык можна паламаць — не выгаварыш, чорт яго ведае што за ежа! Можа якія французскія слімакі? Ядуць госці з талерачак, срэбнымі відэльчыкамі, мікраскапічныя кавалачкі. Святло, музыка, смех — проста Еўропа. А мы галодныя, бы тыя ваўкі, вядома — рабочыя людзі. Урэшце бачым у карце: нармальная курыца. Наямося! Купілі курыцу, бульбу, салату, літроўку. З'елі, выпілі і ўсё ж галодныя Прыходзіць афіцыянт з рахункам: 1250 зл. У нармальным рэстаране было б тады 300 зл, не болей. Выняў я грошы, кінуў яму 1.300. „Рэшты не трэба“, — сказаў мой сябра, быццам які барон. Еўропа!

**Міра Лукша**

### БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Абуўся ў лапці, а ў кішэні рукі дзяржыць.

Адзін балтае, а другі на вус матае.

Бягучага ваўка добра хоць за хвост ухапіць.

# АЛІМПІЙЦЫ — ДОБРАЯ ТРАДЫЦЫЯ

Найлепшая мера вартасці чалавека — гэта яго духоўнае багацце, ступень авалодання ведамі. Вучоба ў школе — шлях у здабыццё гэтых вартасцей.

Агульнаадукацыйны ліцэй імя Бр. Тарашкевіча з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім — якраз такі шлях для моладзі з беларусамоўнага асяроддзя ў Народнай Польшчы. Ліцэй вызначаецца высокім узроўнем навучання. Сведчыць пра гэта вялікі працэнт яго выпускнікоў, паступаючых вучыцца ў вышэйшыя школы. Ліцэісты з „Тарашкевіча“ ў вялікай колькасці і паспяхова прымаюць удзел у прадметных алімпіядах вучняў сярэдніх школ. Гэта ўжо стала традыцыяй. Алімпійцы з Бельска вядомыя ў цэлай краіне.

Закончыўся чарговы навучальны год. 7 чэрвеня б.г. наступная група выпускнікоў развіталася з роднай школай. У гэтым годзе шэсць асоб: Барбара Артэмовіч, Іянна Іванюк, Галіна Выркоўская, Андрэй Зінкевіч, Ірыней Красоўскі і Янка Белаказовіч на атэстаце сталасці мелі адны пяцёркі. Усе яны паспяхова ўдзельнічалі ў прадметных алімпіядах. Барбара Артэмовіч заняла III месца ў краіне па біялогіі. Цэнтральнай ступені па фізіцы дасягнулі Андрэй Зінкевіч і Ірыней Красоўскі. Апрача іх у цэнтральных спаборніцтвах прымалі ўдзел: Іяланта Зіневіч па рускай мове (заняла IX месца ў краіне), Юрка Сегень па ведах аб Польшчы і сучасным свеце (заняў X месца), Янка Здановіч — па ведах аб Польшчы і сучасным свеце, Юрка Ігнацюк — па геаграфіі, і трэцякласніца Барбара Такалюк — па біялогіі. У суме з Беларускага ліцэя з Бельска на акруговых элімінацыях у гэтым годзе было сорак алімпійцаў па дванаццаці прадметах (некаторыя з іх выступалі па двух прадметах). І так: па біялогіі і па ведах аб Польшчы і сучасным свеце па 8 вучняў, геаграфіі і польскай мове — па 7 вучняў, па рускай мове, фізіцы, грамадска-юрыдычных ведах і тэхнічных ведах — па 3 вучняў, нямецкай мове — 2 вучняў, па адным — па хіміі, астраноміі і філасофіі.

Радуе прадаўжэнне добрых традыцый у прадметных алімпіядах. Дзякуючы шчырай і аддаснай працы настаўнікаў і вучняў былі дасягнуты такія поспехі. Найбольшыя заслугі апекуноў алімпійцаў па: біялогіі — у мгр Ніны Сулімы, ведах аб Польшчы і сучасным свеце — мгр Таісы Бялецкай, рускай мове — мгр Зінаіды Навіцкай, па фізіцы — мгр Паўла Яношука і геаграфіі — мгр Серафімы Кандрацюк. Жадаем ім і іншым настаўнікам з Беларускага ліцэя далейшых поспехаў. Няхай надалей адкрываюць новым пакаленням нашай моладзі дарогу ў чароўную краіну ведаў.

Часта сустракаемся з выказваннямі, што цяпер моладзь не горнецца да вучобы. Аднак вучні з Беларускага ліцэя ў Бельску думаюць інакш. Амаль кожны з іх сцвярджае, што паступіў сюды вучыцца з увагі на высокі ўзровень навучання. Добра гэта сведчыць аб іх і аб Беларускім ліцэі.

**Ян Мордань**




## СОН

Аднаго майскага дня, напрацаваўшыся да адказу, павячэраўшы, не гледзячы тэлевізар, лёг я спаць, каб добра адпачыць. Назаўтра ізноў чакала мяне работа. Не ведаю, колькі я спаў, ажно чую, будзіць мяне мая Луцэя:

— Кастусь! Прачніся!

— Што такое? — усхапіўся я. — Можа пажар?

— Не, пажару няма, але прысніўся мне страшны сон. Нібы гарэла наша стадола, а гэта будзе ўжо якаясьці сварка, пабачыш!

— Вось дурыш галаву, — кажу. — Не магла б ты гэты сон расказаць, калі ўстанем?

— Не, не магла б. Магу забыцца. А што ты такі вялікі пан, што цябе збудзіць нельга?

Па праўдзе сказаць, адчуваючы на сваім баку рацыю, я са злосці спамянуў „мацЬ“, шчыра кажу — не божую, і адвярнуўшыся на другі бок, сказаў:

— Адчапіся ты ад мяне, дай адпачыць.

— Адпачыць? — заенчыла Луцэя! — А якую ж ты халеру робіш? Цэлае жыццё адпачывааеш!

— Хай той аслёпне, хто мае работы не бачыць!

— Та што, ты мне зычыш, каб я аслепла? Ах Божа мой, праўду казала нябожчыца мама...

І пачалося вылічванне ўсіх маіх злачынстваў. Дасталася мне, маім нябожчыкам бацькам, нават і некаторым сваякам.

Баючыся, што нашу сварку пачуюць суседзі, я ўстаў, уступіўся ў выступкі, узяў папяросы, запалкі і выйшаў на двор. Сеў на лаўцы і закурыў. Мая Луцэя і не думала супакоіцца, а яшчэ мацней пачала крычаць, каб я і на двары чуў.

Забалела мне, што так часта мая Луцэя прыцінае мне, што я нічога не раблю.

„Я ж усё раблю, — думаў я. — На маіх плячах і вады прынясці, і дроў, і зелля свінням нарваць, і замяшаць свінням, і ў краму схадзіць, і паехаць у мястэчка выкупіць картковы прыдзел. Тым часам мая Луцэя толькі варыла які-небудзь буралей і хату пратала — наводзіла чысціню“.

Колькі гэта ўсё цягнулася — не памятаю. Але калі сціх крык, я паціхеньку ўвайшоў у хату. Мая Луцэя соладка спала. Бралася ўжо на світанне. Не кладучыся, я пачаў памалу апранацца. Зараз жа, калі добра развіднела, пайшоў да сваіх заняткаў.

Калі прыйшоў на снеданне, снеданне не было зварана, а Луцэя чортам бліскала з-пад лоба. Перакусіўшы сухога хлеба з дараным сырам, я ізноў пайшоў да работы. У той дзень не было ні абеду, ні вячэры. Пракляты сон даў як у руку. Шчасце, што быў сыр з дараў.

Вось, міленькія-родненькія, казала некалі Мар'я Пень, каб ёй лёгка гікнулася, якія бываюць жоначкі. Пагаварыў бы ты з такою, Вася-Васілёк (Петручук).

**Дзед Кастусь**




## ВІТАЕМ...

Усім, што дала нам прырода,
Частуем Вас хлебам і мёдам.
Малінавым сокам духмяным,
І яблыкам з дрэва сарваным,
Сачыстымі слівамі з саду,
Віном са свайго вінаграду.
І агрэсту, просім, скаштуйце;
Калі не смакуе, даруйце.
Чым хата багата — прымаем
І шчасця ў жыцці Вам жадаем.

Ліпень, 1984 г. На прыезд у Аўгустова Алеся Барскага, які, на жаль, не прыехаў (а мы так чакалі).

**Марыя Манаховіч**

# 30 ГАДОЎ ПОШТЫ Ў ПАСЫНКАХ

Ужо 32 гады прайшло з таго часу, калі была створана пошта ў Пасынках, што ў Бельскай гміне. Першымі яе працаўнікамі былі: Уладзімір Весялоўскі і Сцяпан Кучынскі. Потым прыйшоў на пошту Яўген Весялоўскі. Гэтыя людзі звязалі сваё жыццё з поштай ад маладосці і працягваюць сваю працу да сённяшняга дня.

Як відаць з дыпломаў, якія ўпрыгожваюць сцяну на пошце, яны працавалі нядрэнна. На працягу некалькіх гадоў займалі І або ІІ месцы сярод поштаў Бельскай акругі.

Вельмі добрую апінію ў жыхароў усіх вёсак маюць пісьманосцы. Абслугоўваюць яны вёскі: Зубава, Кожына, Ступнікі, Піліпкі, Трашчоткі, Локніцу, Катлы, Белую, Мякішы, Сакі, Суботку. Заўсёды гэтыя вёскі пасынскія пісьманосцы наведваюць нягледзячы на пагоду: прыносяць грошы, пісьмы і газеты. Аб'язджаюць свае раёны матаролерамі, а бывае і санямі, ды часта і пехатою. Пасынскі раён мае адлегласці да 30 і больш кіламетраў.

Заглянуў я ў кніжку скаргаў, якая ляжыць на пошце. О, дзіва! За ўсе 32 гады ніхто не ўпісаў аніякай скаргі на працаўнікоў пошты!

У чэрвені гэтага года пісьманосец Яўген Весялоўскі даручаў 350 экземпляраў розных газет, у тым ліку 50 экземпляраў „Нівы“, 58 — „Вспулчэснай“, 70 — „Гадоўлі быдла“, 23 — „Грамады“ і інш. А Уладзімір Весялоўскі: 80 — „Нівы“, 27 — „Вспулчэснай“, 80 — „Гадоўлі быдла“, 20 — „Грамады“.

Начальнікам пошты ў Пасынках з'яўляецца Сцяпан Кучынскі. Далейшых поспехаў, дарагія сябры!

**Э. Вайсковіч**

лейны медаль, што яго імем назавуць некалькі населеных пунктаў, горны хрыбет, асобныя віды мінералаў, фіялкі і малюскаў? Ім кіравалі зусім іншыя мэты: унесці ўклад у развіццё сусветнай навукі і адначасова дапамагчы адсталай краіне.

Чылійцы вельмі гасцінна сустрэлі Дамейку. Каля дваццаці вучняў старанна слухалі яго лекцыі, а ў вольны час прымалі ўдзел у будаўніцтве вялікай лабараторыі.

Прафесар калегіума не любіў заседжвацца на адным месцы. Ён часта адпраўляўся ў экспедыцыі па малавядомай краіне, вывучаў асаблівасці геалагічнага складу краіны, праводзіў метэаралагічныя і мінералагічныя даследаванні, выявіў новыя месцанараджэнні золата і серабра. Вучоны ўнёс уклад і ў этнаграфічную навуку Чылі. Ён наведаў малавывучаную тэрыторыю Араўканію, у якой жылі незалежныя індзейцы мапучэ. Іх побыт Дамейка апісаў у кнізе „Араўканія і яе жыхары“, якая выйшла ў свет спачатку ў Сант'яга, а потым у Вільні.

Наш зямляк крытыкаваў захопніцкую палітыку чылійскіх абшарнікаў, якія зганялі мапучэ з іх зямель, заклікаў адмовіцца ад ваенных дзеянняў і стварыць у Араўканіі школы. Прывезеныя з падарожжа ўзоры мастацтва і быту мапучэ паслужылі асновай для стварэння цікавага музея.

Тэрмін кантракта з нашым земляком заканчваўся. Урад Чылі прапанаваў Дамейку застацца ў краіне. Той згадзіўся: удзельніку паўстання супраць самадзяржаўя вяртацца дадому было нельга. З горада Какімба, у якім ён працаваў, І. Дамейка пераехаў у сталіцу і ўзначаліў кафедру хіміі мясцовага універсітэта.

Тут Дамейка працаваў у розных галінах навукі і адукацыі: ён першым звярнуў увагу на чылійскую салетру, якая па яго прадбачанню набыла як угнаенне вялікую папулярнасць за межамі краіны, прапанаваў праект размяшчэння школ, прымаў удзел ва ўдасканаленні водазабеспячэння сталіцы, укараніў метрычную сістэму мер, напісаў шмат дапаможнікаў па фізіцы, хіміі, метэаралогіі, стварыў тры музеі, некалькі бібліятэк, адкрыў шэраг відаў раслін, цікавіўся дзейнасцю мясцовых вулканаў, склаў геалагічную карту Чылі... Сто трыццаць навуковых прац вучонага выйшлі на розных мовах свету, прыносячы ўсё большую папулярнасць іх аўтару.

У 1866 годзе Дамейка прадстаўляў Чылі на сусветнай выстаўцы ў Парыжы. Пасля вяртання з Францыі яго выбіраюць рэктарам універсітэта, і гэту пасаду ён займае 17 гадоў.

На старасці год, у 1884 годзе, вучоны наведаў родныя мясціны, пабываў у Навагрудку, Міры, Крошыне, Лідзе, ну і, вядома, у роднай Нядзведцы. Потым ён адправіўся ў Італію, адтуль у Турцыю, Палесціну, Егіпет. Закончыўшы падарожжа, ён пасяліўся ў Парыжы.

Чылійцы не хацелі пакідаць у адзіноце свайго сябра, яны горача прасілі яго вярнуцца. У хуткім часе Дамейка вяртаецца ў краіну, у якой правёў не па сваёй волі большую частку жыцця. 23 студзеня 1889 года тут перастала біцца яго сэрца...

**В. Грыцкевіч**

# ФЭСТЫН У ПІРАЖКАХ

Беларускае таварыства ў бягучым годзе народныя фэстыны прысвячае 40-й гадавіне Перамогі над фашызмам. На Сакольшчыне такое мерапрыемства адбылося 23 чэрвеня ў вёсцы Піражкі, што ў Шудзялаўскай гміне. Да яго салідна рыхтаваўся гурток БГКТ (яго ўзначальвае Рамуальд Алекша) і ўся піражкоўская моладзь. Яна арганізавала грамадскі пачын, надрыхтавала на фэстын танцавальную пляцоўку, на якую пайшло шмат камення і больш за 2 тоны цэменту. Яе абгарадзілі, зрабілі лаўкі, падвышэнне для аркестра, а над ёю расцягнулі драты, каб можна было накрыць брызентам на выпадак дажджу.



Было шмат людзей...

Мясцовая школа падрыхтавала выступленне школьнага хору і дэкламатараў. Займаўся гэтым настаўнік Янка Чабан. Вясковыя спартсмены на чале з Леанардам Крыштаповічам склалі спартыўную праграму.

У дзень фэстына на абшырным пляцы пры клубе, у 16 гадзін, было ўжо шмат людзей, адкрыўся крынкаўскі кіёск з харчавымі прадуктамі і напіткамі, а ў мясцовай краме нават было марожанае.

На трыбуну з прычэпы, абсажанай бярозкамі, падняўся прэзідыум урачыстасці (з першым сакратаром гміннага камітэта ПАРП Станіславам Кувейшам, начальнікам гміны Чэславам Бэткалам, старшынёй гміннай рады ПРОНу Мікалаем Гаспэрчыкам і з Сяргеем Крыпэнем — намеснікам кіраўніка раённага асяродка партыйнай працы з Саколкі і іншымі).

Адкрыў фэстын старшыня сакольскага аддзела БГКТ Мікалай Байгуз. Ён сардэчна прывітаў усіх прысутных і паінфармаваў аб праграме ўрачыстасці. З дакладам на тэму „40 гадавіна перамогі над фашызмам“ выступіў член Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, журналіст „Нівы“ Міхась Хмялеўскі. Затым выступілі школьнікі, а пасля іх харавы калектыў з Гарадка пад мастацкім кіраўніцтвам Сцяпана Копы, рэпертуар якога ўсім падабаўся і ўзнагароджваўся бурлівымі воплескамі.



Затым выступілі школьнікі...

Многіх прыцягвала да сябе кніжная латарэя, якая не мела пустых фантаў, а ў ёй былі кніжныя выданні ГП БГКТ. Займаўся ёю інспектар ГП Аляксандр Рафаловіч.

Спартыўныя ігры былі з узнагародамі і ўключаліся ў іх удзельнікі фэстына, а найбольш школьная моладзь.

Пазней пачаліся музыкі. Танцавальная пляцоўка напоўнілася моладдзю з Піражкоў і суседніх вёсак.

Фэстын быў свайго роду святам беларускага слова і беларускай песні. Быў ён добра падрыхтаваны, за што належыцца пахвала і падзяка сакольскаму аддзелу Беларускага таварыства і піражкоўскаму гуртку БГКТ. **(мх)**

Фота аўтара



Кніжнай латарэяй займаўся А. Рафаловіч.




# КАМАНДОС З ГРЫНЕВІЧАЎ

На гэты раз ваенныя сцежкі завялі мяне ў вёску Грыневічы, што пад Беластокам. М. Швэдзюк з далёкай Англіі, прачытаў у „Ніве“ расказ аб пошуках магіл салдат, якія загінулі ў час апошняй вайны. Пад уражаннем прачытанага напісаў нам аб адным здарэнні, якое пад канец 1984 года адбылося ў Англіі, у графстве, у якім ён пражывае. Героем гэтага здарэння стаў, між іншым, наш зямляк-камандос з вёскі Грыневічы, Ян Федарчук.

„Калісьці прачытаў я, — інфармаваў М. Швэдзюк, — у польскай эміграцыйнай газеце аб святой памяці Івану Федарчуку. Напэўна быў беларусам. Загінуў 18.VII.1944 года каля Аквіляна ў Італіі. Перасылаю ўрывак з польскай газеты“.

Загаловак гэтай газеты наш чытач не назваў. Але са зместу інфармацыі вынікае, што 12 снежня 1984 года ў каталіцкім касцёле Хрыста Караля ў мясцовасці Бальгем адбылося ўрачыстае адкрыццё памятнай дошкі ў гонар двух камандосаў, былых салдат Войска Польскага: Францішка Рагуцкага і Яна Федарчука, якія загінулі ў баях за вызваленне Італіі.

Францішак Рагуцкі трапіў у польскую армію са Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі, з горада Пітсбурга, дзе пасяліліся яго бацькі. На вайну з лютым ворагам польскага народа, з нямецкім гітлерызмам, пайшоў ён добраахвотна, па ўласнаму жаданню, хаця нарадзіўся ўжо ў ЗША і Польшчу ведаў толькі з расказаў бацькоў. Вояваў ён адважна, аб чым сведчыць высокая баявая ўзнагарода, — Крыж Ордэна Віртуці Мілітары. Загінуў 15 снежня 1943 г. на 25-м годзе жыцця ў баях пад горадам Аталета.



Пляменнік (братанак) Яна Федарчука, солтыс вёскі Грыневічы — Генрых Федарчук.

Ян Федарчук быў яго баявым сябрам. Абодва яны служылі ў 10 роце I парашутнай дывізіі, якая асабліва адзначылася ў баі за Монтэ-Касіна ў маі 1944 года. За вайсковае мужаства Ян Федарчук таксама атрымаў Крыж Віртуці Мілітары. Загінуў 18 ліпеня 1944 года ў час атакі на мясцовасць Аквіляна. Меў тады за сабою 29 гадоў жыцця.

У эміграцыйнай газеце чытаем:

„Іх мемарыяльная дошка выглядае скромна, але красамоўна і прыгожа запраектавана прафесарам інжынерам архітэктарам Збігневам Гансевічам, які ў вайну быў паручнікам-камандосам.

Яна выканана ў зялёным камені (сланцы) ў выглядзе кры-

*Этнаграфічныя акцэнты*

# ЦАРКВА Ў СЯМЯЦІЧАХ



Мал. В. Шума.

Першае пісьмовае ўпамінанне аб існаванні царквы паходзіць з першай паловы XV ст. Ахвяравальны дакумент, дадзены тагачасным уладальнікам горада Алехнам Кмітай Судзімантовічам, датуецца 1431 годам. У 1456 г. чарговы ўладальнік, Міхаіл Кміта, адрамантаваў царкву і перадаў прыходу дадатковыя ворныя землі і сенажаці, а яго дачка Аляксандра, па мужу Тэнчынская, у 1513 г. пацвердзіла правы прыхода да папярэдніх ахвяраванняў. З 1527 г. Сямяцічы — уласнасць казначэя Вялікага княства Літоўскага Богуша Багавіціновіча, а з канца XVI ст. — магнацкай сям'і Сапегаў.

Пасля падпісання брэсцкім епіскапам Іпаціем Пацеем у 1596 г. акту згоды на унію праваслаўнай царквы з рымска-каталіцкім касцёлам, сямяціцкая царква стала уніяцкай. Леў Сапега, канцлер Вялікага княства Літоўскага, у 1605 г. надае царкве далейшыя прывілеі. Фармальнае прыняццё уніі наступае аднак толькі ў 1614 г., калі „прэзенту“ атрымаў свяшчэннік Э. Кентжынскі. Захавалася прэзента з дня 11.12.1627 г., дадзеная чарговаму святару, пры ўмове, што будзе захавана унія. Звольнілі яго з усялякіх данінаў за надзеленыя валокі. Адзіным яго абавязкам было адпраўлянне маленняў за сваіх ахвяравальнікаў. Пад канец XVIII ст. царква пачала траціць свой выгляд, а яе парафіяльныя святы (св. Тройцы, ап. Пятра і Паўла, а таксама св. Параскевы) былі штораз менш урачыстымі. У перыяд уладання Анны Яблаshoўскай наступае дынамічнае развіццё горада, але царква астаецца без змен. У 1789 г. прыход у Сямяцічах налічвае 2511 прыхаджан, з якіх 456 жыве ў Сямяцічах, а ўсе іншыя ў 16 навакольных вёсках. Прыход быў двухштатны, а яго свяшчэннікам з'яўляецца Мікалай Духноўскі, потым епіскап уніяцкай епархіі ў Супраслі. Пасля III раздзелу Польшчы Сямяцічы апынуліся ў складзе Прусіі, а з 1807 г. увайшлі ў састаў Расіі. У 1839 г. наступае злучэнне уніі з праваслаўнай царквой. У Сямяцічах толькі ў 1865 г. прыступілі да пабудовы новай мураванай царквы. У тым жа годзе ў цэнтры горада была пабудавана капліца св. Аляксандра Неўскага. Новапабудаваны храм хутка аснашчаецца новымі каштоўнымі іконамі і іншымі царкоўнымі рэчамі. У 1908 г. у Гродне быў заказаны новы іканастас. Прыход хутка разрастаецца, і перад выбухам I сусветнай вайны налічвае ўжо 6625 прыхаджан; яны жывуць у Сямяцічах і 22 навакольных вёсках. У 1915 г. большасць прыхаджан эвакуіравалася ў глыб Расіі, а царкву акупант замяніў на гаспадарчы будынак.

У міжваенныя часы Сямяцічы атрымалі статус штатнага прыхода, і іх свяшчэннікі з духоўнымі паслугамі выходзілі па-за межы свайго прыхода. У гэтым часе Сямяцічы былі сядзібай дэканата Сямяціцкай акругі, якая ўваходзіла ў склад Гродзенска-Навагрудскай епархіі.

У 1952 г. Сямяцічы сталі сядзібай павету, а гэта спрыяла росту ліку іх жыхароў, а тым самым ліку праваслаўных прыхаджан. Усе парафіяльныя будынкі ўтрымоўваюцца ў належным стане. Апрача таго, царква ўзбагачаецца ўсё новымі і новымі прадметнымі ахвяраваннямі. Добрай нагодай да таго было святкаванне 100-ай гадавіны царквы ў 1966 г. Многа шкоды прычыніў царкве пажар (1.05. 1973), але дзякуючы ахвярнасці і глыбокаму пачуццю адказнасці святароў і прыхаджан страты былі ліквідаваны, храм адноўлены, іконы рэстаўраваны. Многія прыхаджане абдарылі царкву новымі прадметнымі ахвяраваннямі.

У 1982 г. прыход распачаў будаваць новы мураваны парафіяльны дом.

**Р. С.**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК


W. A. Bołotnikowa i in. Kuchnia białoruska. Tłum. z ros. H. Trafisz-Zalewska. Państwowe Wydawnictwo Rolnicze i Leśne, Warszawa 1984, ss. 120, cena 120 zł.

И. Д. Юркевич, Н. Ф. Ловчий, Сосновые леса Белоруссии (типы, ассоциации, продуктивность). „Наука и техника“, Минск 1984, стр. 176.

М. М. Никулин, И они не нужны природе. О рептилиях Белоруссии. „Наука и техника“, Минск 1984, стр. 128.

Politechnika Białostocka — 35 lat. Praca zbiorowa pod red. K. Pieńkowskiego. Pol. Biał., Białystok 1984, str 180, XLVIII, cena 300 zł.

Grzegorz Kwieciński, Grafika. Wystawa — Białystok, listopad 1983. Biuro Wystaw Artystycznych w Białymstoku, 1983, str. 12.

Wanda Ostrowska, Ul wielokorpusowy w badaniach i gospodarce pasiecznej na terenie Polski północno-wschodniej. Wojewódzki Ośrodek Postępu Rolniczego w Olecku, 1984, str. 36.

Edmund Przekop, Wschodnie patriarchaty starożytne (IV—X w.). „Pax“, Warszawa 1984, str. 236, cena 250 zł.

Edward Prus, Władyka Świętojurski. Rzecz o arcybiskupie Andrzeju Szeptyckim (1865—1944). Instytut Wydawniczy Związków Zawodowych, Warszawa 1985, str. 336, VIII, cena 280 zł.

Ośrodki kultu religijnego w Polsce. Mapa 1:750 000. Państwowe Przedsiębiorstwo Wydawnictw Kartograficznych Warszawa—Wrocław 1984, 94x87 cm, cena 100 zł.


**П. Байко**

## ЭХ, ВУЛІЦЫ!

Дзве бельскія вуліцы вельмі кепскія для праезджых, шафёраў і веласіпедыстаў. Гэта вуліцы: Дубічы і Казімежоўская. На Дубічах у мінулым годзе праводзілі каналізацыю. Калі равы засыпалі, дык зрабілі гэта недакладна і пасля зімы заставаліся вялікія прорвы. У месцы, дзе вуліца Дубічы злучаецца з Відаўскай, цяпер такія калдобіны, што ў дождж цяжка праехаць.

Казімежоўская належыць да найбольш рухлівых вуліц у горадзе, але яна вельмі кепская на адрэзку ад вуліцы Міцкевіча да маста на рэчцы Белай. Чаму прадпрыемства публічных дарог не наладзіць гэтых вуліц, як следуе?

**А. Гаўрылюк**

жа, на перакладзінах якога памешчана памятная інфармацыя. З левага боку: імя і прозвішча Францішка Рагуцкага, а з правага — Яна Федарчука. Пад яго прозвішчам знаходзіцца тэкст, які інфармуе, што гэтая дошка прысвячаецца памяці „Камандоса, Кавалера Ордэна Віртуці Мілітары, паўшага 18.VII. 1944 пад Аквіляна ў Італіі“. Пасярэдзіне гэтага крыжа, у цэнтры, знаходзіцца эмблема парашутнай дывізіі, а пад ёю інфармацыя: „Іх магілы асталіся невядомымі“.

Аўтар артыкула паясняе:

„Сябры-камандосы рашылі ўвекавечыць іх памяць, бо іх магілы асталіся невядомымі таму, што пасля вайны астанкі гэтых салдат не былі перанесены на супольны могільнік пад Монтэ-Касіна, за якое яны змагаліся“.

За Монтэ-Касіна, вядома, змагаўся толькі Ян Федарчук, бо Францішка Рагуцкага ў гэты час не было ўжо ў жывых.

М. Швэдзюк нам напісаў:

„Я святой памяці І. Федарчука не ведаў. Можа яго радня і на сённяшні дзень не ведае, што ён загінуў на вайне. Можа яшчэ чакаюць вестак“.

Паехаў я ў вёску Грыневічы. На Беласточчыне тры вёскі з гэтай назвай: Грыневічы Вялікія і Малыя пад Бельскам ды Грыневічы пад Беластокам, па дарозе ў напрамку на Юхновец, у некалькіх кіламетрах за Беластокам. Вёска раскінулася паабапал шашы, па якой безупынку імчацца аўтамабілі.



Сястра Яна Федарчука, Марыя Козуб, на ганку сваёй пастарэлай крыху хаты.

Солтыс падбеластоцкіх Грыневічаў — Генрых Федарчук, але я аб гэтым нічога не ведаў, дык найперш запытаў у яго, ці ў вёсцы, у якой ён салтысуе, жывуць нейкія Федарчукі?

— Я — Федарчук, — адказаў мне солтыс і запытаў: — А вы можа шукаеце сям'ю Яна Федарчука, які загінуў пад Монтэ-Касіна?

— Так, вы ўгадалі! — не прабаваў я скрываць свайго здзіўлення.

— Гэта быў мой дзядзька, родны брат майго бацькі.

Сям'я Федарчукоў, з якой выводзіўся Ян Федарчук, была вельмі вялікая. У яго бацькоў Міхала і Марыянны было аж сямёра дзяцей: пяць сыноў і дзве дочкі. З гэтай сям'і ў жывых асталіся яшчэ наймалодшая сястра Марыя, па мужу Козуб, і брат Юзаф.

Сям'я гэта каталіцкая, глыбока веруючая. Бацькі выхоўвалі сваіх дзяцей у свядомай прыналежнасці да польскага народа, хаця карэнні іх паходжання, безумоўна, шукаць трэба сярод беларускіх продкаў. Дарэчы, на 70 сем'яў, якія зараз жывуць у Грыневічах, толькі дзве праваслаўнага веравызнання. А тут, правільна ці не, веравызнанне атаясамліваецца з нацыянальнасцю, у першую чаргу з прынцыпам: хто ў Польшчы католік, той і паляк.

Так што цяжка мне раздзяліць здагадку М. Швэдзюка, што камандос з Грыневічаў, Ян Федарчук, „напэўна быў беларусам“.

Нарадзіўся ён у 1915 годзе. Калі распачалася другая сусветная вайна, значыць, у верасні 1939 года, Ян Федарчук служыў у 10-м палку ўланаў, які тады кватэраваўся ў Беластоку.

— Дзядзьку Янку, — гаворыць солтыс Федарчук, — найбольш выразна запамятаў я ў

(Працяг на стар. 8)

# З БЕЛАРУСКАГА СПОРТУ

■ У Мінску прайшоў заключны тур чэмпіяната Савецкага Саюза па гандболу. Ён прынёс поспех беларускім спартсменам.

Каманда мінскага СКА, выйграўшы сустрэчы ў галоўных сапернікаў каўнаскага „Гранітаса" — 29:26 і маскоўскага ЦСКА — 25:22, упэўнена заняла першае месца.

■ Традыцыйная сустрэча маладзёжных каманд СССР і ГДР па спартыўнай гімнастыцы адбылася ў горадзе Шверын.

У складзе савецкай зборнай выступалі тры спартсменкі з Беларусі. Яны і сталі пераможцамі спаборніцтваў. Першае месца ў Вольгі Сямернік (Гродна), другое — у мінчанкі Святланы Багінскай, а трэцяе месца дасталося магіляўчанцы Святлане Баітавай.

■ Два барцы класічнага стылю з Беларусі, Анатоль Федарэнка і Алег Аруцюнян, сталі чэмпіёнамі краіны. Спаборніцтвы прайшлі ў Краснаярску.

■ На міжнародных спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы, прысвечаных памяці братоў С. і Г. Знаменскіх, выступіла вялікая група мацнейшых спартсменаў планеты.

І тым больш прыемным аказаўся поспех беларускіх спартсменаў Ігара Казанава (110 метраў з бар'ерамі) і Алены Мядзведзевай (800 метраў), якія выйгралі свае забегі.

■ Мінчанін Валерый Давідовіч стаў пераможцам чэмпіяната Савецкага Саюза па трохбор'ю на конях.

■ У Магілёве завяршыліся спаборніцтвы па Кубак СССР па спартыўнай хадзьбе.

Лепшым сярод беларускіх спартсменаў стаў Аляксандр Паташоў. Ён заняў другое месца.

■ Спартсменкі 31 краіны прынялі ўдзел у міжнародным турніры ў Францыі на мастацкай гімнастыцы.

Марына Лобач з Мінска заняла на гэтых спаборніцтвах трэцяе месца.

■ Таварыская сустрэча лёгкаатлетаў Беларусі, Латвіі і Эстоніі адбылася ў Таліне.

Агульнакамандную перамогу атрымалі беларускія спартсмены. Высокіх вынікаў дамагліся Юрый Тарасюк (кіданне молата), Генадзь Валюкевіч (трайны скачок) і іншыя беларускія лёгкаатлеты.

## Куток практычных ведаў

### КУРЫНАЯ СЛЕПАТА

Бадай, многія чулі пра „курыную слепату" — паслабленне зроку ў час змроку. Найбольш частая прычына такога парушэння — недахоп у арганізме вітаміну А. Папоўніць яго можна двума шляхамі: прымаць таблеткі вітаміну па 20-25 тысяч міжнародных адзінак у дзень (дазіроўка ўказана на пакеце), або павялічыць у рацыёне колькасць прадуктаў, у якіх змяшчаецца вялікая колькасць гэтага вітаміну — сметанковага масла, печані, морквы, салаты, зялёнай цыбулі, шчаўя. Шмат вітаміну А ў рыбіным тлушчы.

Калі пасля прыёму вітамінаў не надыдзе паляпшэнне, неабходна звярнуцца да ўрача-акуліста, таму што паслабленне зроку можа ўзнікнуць і ў выніку іншых прычын.

### ГУМАВЫЯ БОТЫ

Гумавы абутак не засцерагае ад холаду. Затое ў дажджлівае або сырое надвор'е ён незамяніммы. Не забудзьце толькі пакласці ў яго лямцавыя сцілкі, падшытыя двумя слаямі льняной тканіны. Яны добра ўбіраюць вільгаць. Не забывайце таксама надзяваць у гумавыя боты шарсцяныя шкарпэткі, якія валодаюць павышанай гіграскапічнасцю.

Тым, хто хварэе на рэўматызм скурныя і іншыя захворванні ног, а таксама тым, хто адчувальны да ахаладжэння і схільны да патлівасці, гумавыя боты насіць не раіцца.

## ХАЛОДЗІЦЬ ВУСНЫ, АЛЕ ГРЭЕ СТРАЎНІК

У зялёных шатах нашых лясоў ёсць расліна, якую можна знайсці па адным паху. Гэта, вядома, мята — самая пахучая расліна ў поясе ўмеранага клімату. За мятай прапаную ісці або ў парны дзень, або перад захадам сонца. Шпацыраваць трэба ўздоўж берага чыстай ракі ці рова, ускрай возера або багны. Нездарма гэтая расліна лацінскую назву атрымала ад імя казачнай апякункі лугоў, крыніц і рэк — Менфы. Знайсці гэтую расліну няцяжка. Яе пах можна пачуць здалёк. Даволі ўзяць адну раслінку, расцерці ў пальцах толькі адзін лісточак, каб здалося, што адкрыўся зачараваны слой з мятным пахам, гаючым і адначасова злёгку халодзячым. Не выпадкова калісьці беларускія шляхцянкі, так як колішнія рымскія патрыцыянкі, перад прыняццём гасцей спырсквалі памяшканне мятнай вадой, некаторыя нават загадвалі націраць мятай сталы. Пах мяты, быццам бы, ствараe дасканалы настрой. Ужо ў мае часы батанік З. Новак з ляснога тэхнікума ў Белавежы рэкамендаваў здаючым экзамен на атэстат сталасці не расставацца з мятай. Пахучае зёлка ўзбуджае, нібыта, разумовыя здольнасці і энергію.

З мятай звязана важнае адкрыццё ў навуцы. Англійскі вучоны Дж. Прыстлі адкрыў, што расліны выдзяляюць кісларод (тлен). Дзве мышы накрыў ён шклянымі каўпакамі. Пад адным каўпаком разам з мышшу памясціў растучую ў вазоне мяту. Аказалася, што пад каўпаком, дзе не было расліны, мыш хутка здохла, а разам з мятай пражыла аж восем дзён.

Лячэбныя і гаспадарчыя вартасці мяты былі вядомы ў адлеглай старажытнасці. Упамінанні пра яе прымяненне знаходзяцца ўжо нават у старажытнаегіпецкіх папірусах. Ведалі мяту старажытныя персы, грэкі і рымляне. Яна апісана ў творах Гіпакрыта, Арыстоцеля і Дыяскарыда. У абсягу нашай культуры першае пісьмовае ўпамінанне пра гэтае зёлка знаходзіцца ў старажытнарускім летапісе ў запісе пад 1119 годам.




У народнай медыцыне мята лічылася патагонным і ветрагонным сродкам. Напараннем з мяты суцішалі спазмы страўніка, утойвалі панос. У вывары з мяты купалі дзяцей, калі ў іх быў рахіт або залатуха. Сок з лісця мяты прымалі як адхаркваючы сродак.

Таксама і цяпер мята шырока прымяняецца ў лячэнні і хатняй гаспадарцы. Прэпараты з мяты прымяняюць пры захворваннях скуры і слізістых абалонак — сверб скуры, скулы, гіперамія (пракрываўленне) слізістай абалонкі носа, лёгкае запаленне верхніх дыхальных шляхоў, запаленне дзяснаў, поласці рота, горла, гартані, а таксама пры захворваннях страўнікава-кішачнага тракту — млоснасцях, коліках у кішках, уздуццях, катарах (нежытах) страўніка, дванаццаціперснай кішкі, кішок. Апрача гэтага лякарствы з мяты прымяняюцца пры запаленні жоўцевага пузыра і жоўцевага тракта (жоўцевых дарог), пры неўралагічных болях твару і мігрэні.

Лячэбнымі ўласцівасцямі валодаюць лісці і верхняя частка сцябла. Збіраць іх трэба перад зацвітаннем, аднак не пазней, як падчас поўнага квітнення. Высушаную мяту захоўваем у замкнутых слоіках.

Хатнім спосабам можна нарыхтаваць з мяты напаранне: 4-10 грам высушанага лісця заліць шклянкай кіпетню, піць 2-3 разы ў дзень. Такая вялікая розніца ў колькасці мяты залежыць ад яе гатунку. Дзікарослай мяты, якую завуць мятай палявой (лацінская назва — Mentha arvensis, польская — mięta polna, руская — мята полевая) трэба 10 грам, а мяты, якая расце ў агародах, гэта значыць перцавай (лацінская назва — Mentha piperita, польская — mięta pieprzowa, руская — мята перечная) — даволі 4 грамы.

Варта ведаць, што мяту дадаюць пры квашэнні капусты галоўкамі, араматызавання соусаў, напіткаў. Ужываюць яе таксама як прыправу да салатаў, мясных і рыбных страваў, супоў. Вывар з лісця дадаюць да здобы (розных пірагоў і іншых вырабаў з цеста), а таксама ў малако, каб засцерагчы яго ад закісання.

**д-р Б. Паскробка**

(Працяг са стар. 7)

# КАМАНДОС З ГРЫНЕВІЧАЎ

мундзіры ўлана. Бліскучыя, высокія боты, са шпорамі, доўгая шабля ля боку. Мне, малому, хацелася хаця пальцамі дакрануцца да ўсяго гэтага. Так і сёння яго бачу.

З 10-м палком уланаў Ян Федарчук шчасліва прайшоў яго славуты баявы шлях у вайне з гітлераўскімі захопнікамі і пад канец 1939 года ўдалося яму вярнуцца дамоў.

— Якраз у нас тады здарылася бяда, — успамінае яго сястра, Марыя Козуб. — Памерла маці. Мы рыхтавалі яе да пахаранаў, палілі свечкі і гімны жалобныя спявалі, а тут уваходзіць ён, наш Янак, быццам з таго свету...

Пры савецкай уладзе Ян Федарчук жыў і працаваў у роднай вёсцы. На сваё няшчасце, зімою 1941 года, аднойчы пачаў па-п'янаму бойку з адным яўрэем-рамізнікам, які не хацеў адвезці яго з Беластока ў Грыневічы. За гэтую бойку дастаўся яму год турэмнага зняволення.

— Адвезлі яго аж у горад Горкі, — кажа брат Язэп. — Гэта мы дакладна ведаем, бо брат лісты яшчэ адтуль прысылаў.

— Ён прасіў, — добаўляе сястра Марыя, — каб яму даслаць цёплую вопратку, бо там вялікія маразы...

Пасля падпісання дагавору Сталін-Сікорскі, Яна Федарчука як паляка датэрмінова выпусцілі з астрогу і ён апынуўся ў арміі генерала Андэрса, з якой прайшоў вядомы шлях ад Бузулука цераз Блізкі Усход аж у Італію, дзе абарвалася яго жыццё.

Яго брат Вацлаў таксама быў ваенным, але ўжо ў Людовым Войску Польскім. Памёр у чыне палкоўніка. Пахаваны на Павонзках у Варшаве. Гэта ён намагаўся высвятліць лёс свайго брата Янка. Дапамог яму ў гэтым Польскі Чырвоны Крыж. Гадоў таму дваццаць радня даведалася, што Ян Федарчук загінуў, быццам бы, пад Монтэ-Касіна.

— Нават адаслалі нам некаторыя яго рэчы, — кажа сястра Марыя.

Затое аб памятнай табліцы ў касцёле на Бальгем яны яшчэ нічога не ведалі.

— О, каб вы нам нашага Янка прывезлі жывога! — што й раз з уздыхам паўтарала Марыя Козуб.

На жаль, ніхто не верне да жыцця яе брата. Яго кроў злілася з той вялікай ахвярай, якую заплаціла чалавецтва за сваю свабоду.



За гэтай хатай стаяў дом, у якім нарадзіўся і жыў Ян Федарчук, камандос з Грыневічаў.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Урок малявання ў школе ў Дашах. Вядзе ўрок настаўніца Анна Купрыцюк.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

## Спартсмены з „тройкі"

У апошнім дні мая ў Бельску на гарадскім стадыёне адбыліся IX спартыўныя гульні школьнай моладзі горада. Каманда хлопцаў з пачатковай школы № 3 (беларуская) заваявала пяць залатых медаляў на дзевяць магчымых, хоць у агульнай класіфікацыі сярод пачатковых школ уступіла першае месца некалькімі пунктамі камандзе пачатковай школы № 1. (Такія мудрагелістыя спосабы налічання пунктаў за перамогу).

Бег на дыстанцыі 300 метраў выйграў Ярэк Сліўка. Найлепшым на 1000 метраў быў Янка Мойсік. У штурханні ядра перамог Ірэк Каменскі, а ў кіданні дыска — Ярэк Анопюк. Усе пераможцы з'яўляюцца вучнямі VIII „Б" класа. У скоках у даўжыню першае месца заняў Дарэк Галашэўскі, а трэцяе — Адам Козак. Яны з VII „А" класа.

Трэба падкрэсліць, што амаль усе гэтыя спартсмены вельмі добра вучацца. У Ярка Сліўкі пераважаюць пяцёркі.

1 і 2 чэрвеня пераможцы бельскіх гульняў прымалі ўдзел у алімпіядзе школьнікаў у Беластоку. Ірэк Каменскі стаў пераможцам у штурханні ядра. Наслаў ён ядро на адлегласць 11 метраў 58 сантыметраў і апярэдзіў сапернікаў больш чым на паўметра. Янка Мойсік здабыў бронзавы медаль у бегу на 1000 метраў, а Ярэк Сліўка ў бегу на 300 метраў заняў сёмае месца. У суме хлопцы з бельскай „тройкі" здабылі 30 пунктаў і дзесятае месца сярод пяцідзесяці пачатковых школ нашага ваяводства. Шкада, што ў Беласток не мог паехаць Дарэк Галашэўскі, ён таксама меў вялікія шанцы быць сярод найлепшых. У Беластоку выступіла таксама Галіна Майстровіч з „тройкі" і заняла ў бегу на 100 метраў пятае месца.

Спартсмены з бельскай школы № 3 не першы раз ужо здабывалі вельмі высокія месцы ў розных спаборніцтвах. У гэтым годзе каманда легкаатлетычнага чатырохбор'я з гэтай школы заняла першае месца сярод бельскіх школ і паспяхова выступіла ў ваяводстве. У сакавіку 1985 года баскетбалісты (кош) занялі сёмае месца ў ваяводстве. У лёгкаатлетычным трохбор'і вучняў малодшых класаў каманда з „тройкі" была другой у бельскім раёне.

Поспехі немалыя. Хоць нельга не адзначыць, што ў школе гэтай няма нават спартыўнай пляцоўкі, а спартыўная зала была таксама недаступна ў сувязі з рамонтам. У такіх неспрыяльных умовах спартсмены з „тройкі" змаглі так добра сябе паказаць, вядома, дзякуючы добрай працы настаўніка фізкультуры Васіля Нікалаюка. Спартсмены і іх настаўнік даказалі, што зрабіць могуць многае, калі б ім яшчэ палепшыць умовы працы. На гэта і спадзяюцца і настаўнікі і вучні ў далейшым. Малады чалавек павінен займацца спортам, гэта неабходна для яго лепшага развіцця.

Жадаем дзецям і настаўнікам з „тройкі" далейшых поспехаў.

**Янка Мордань**



*Ірэк Каменскі і Янка Мойсік — найлепшыя спартсмены бельскай школы № 3. Здымак зрабілі члены школьнага фатаграфічнага гуртка.*

**Лідзія Яloўчык**

## ГАСПАДЫНЯ

Таня выглядае з-за новай школьнай брамкі пафарбаванай вясёлым жоўтым колерам. Побач, цесна прытуліўшыся да дзяўчынкі стаіць яе чатырохгадовая сястрычка Аленка. Яна моцна трымаецца за Таніну сукенку і спалохана пазірае на дзяцей, што гуляюць на школьнай спартыўнай пляцоўцы.

Цяпер канікулы. І тут, у школе, размясціўся лагер. Ужо некалькі дзён па пляцоўцы бегаюць незнаёмыя дзеці. Таня штодзень пазірае за іх гульнёю і толькі сёння адважылася наблізіцца.

Яе заўважылі. Да брамкі падбегла дзяўчынка Таніных гадоў. У белай, нібы воблачка, сукенцы, з доўгімі коскамі, заплеценымі ружовымі бантамі, і з мячыкам у руцэ. Яе блакітныя вочы смела глядзелі на Таню, і яна сказала:

— Хадзем гуляць!

Таня маўчала, прыглядалася да дзяўчынкі, нібы вывучала яе.

— Хадзем, не бойся, — запрашала тая, падкідваючы мячык.

— Я не баюся. Проста няма часу. Хіба ты не бачыш, што я Аленку даглядаю? Яна малая, яе гадаваць трэба... — адказвае Таня, набраўшыся смеласці.

— Аленка пастаіць, — кажа незнаёмая дзяўчынка і хмурыць бровы.

— Не магу... — запінаецца Таня і працягвае: — Дома я гаспадыня. Мне зараз Аленку трэба карміць і куранят.

— Фу, якая гаспадыня! — пагардліва смяецца дзяўчынка і гоніцца за мячыкам.

— Гаспадыня я! — не адступаецца ад свайго Таня. — Так мама кажа. Бо я ўсё дома раблю, не так, як ты... Мой тата з мамай у полі працуюць. Яны кажуць: сорамна расці гультаямі. А ты ўсе дні гультаіш! — нарэшце адважылася Таня крыкнуць услед дзяўчынцы слова, якое доўга круцілася на языку. Слова „гультаіш" затрымлівае дзяўчынку на месцы. Крыху счакаўшы, яна падыходзіць да Тані і з крыўдай у голасе кажа:

— Я не гультаю. Адпачываю тут.

— Адпачываеш?! — здзіўляецца Таня і робіць крок да незнаёмкі. — Дзе ж ты напрацавалася, што адпачываеш?

— Я ўвесь год вучылася, — адказвае дзяўчынка і задзірыста глядзіць на Таню, загарэлы тварык якой расплываецца ў іранічнай усмешцы.

— Вучылася? Я таксама вучылася, і на адны пяцёркі. І мне настаўніца давала пуцёўку ў лагер. Але я не паехала, бо трэба маме памагаць. Калі прадшколле дабудуюць, Аленку аддамо туды. І я паеду ў лагер. А цяпер трэба працаваць, — з гонарам кажа Таня.

— Ты не працуеш, а толькі стаіш, — пярэчыць дзяўчынка і кідае мячык, які пралятае ля самых Таніных ног. Тані вельмі хочацца падняць яго і кінуць назад, але яна вагаецца, і мячык коціцца далей. У словах незна-

(Працяг на стар. 10)

## РОБІМ САМІ ЦАЦКІ




### ШАПКА З КАЗЫРКОМ

На гэты раз навучымся рабіць найбольш распаўсюджаную шапку, менавіта, з казырком.

Бярэм газету вялікага фармату. Складаем яе напалову (мал. 1). Заламваем зноў верхнія вуглы (з перарэзанага боку) (мал. 2). Атрыманы зверху востры вугал складваем да нізу напалову (мал. 3). Тады адну ніжнюю палоску складваем напалову да краю складзеных вуглоў (мал. 4). Затым яшчэ раз складваем палоску на востры вугал (мал. 5). Цэласць добра выгладжваем і перакладаем на адваротны бок (мал. 6). Цяпер складваем з двух бакоў палоскі з улікам на размер шапкі (мал. 7). Для таго, каб атрымаць меншы размер, складваем шырэйшыя палоскі. Зложаныя палоскі складваем зноў да сярэдзіны — напалову (мал. 8). Затым бярэм ніжнюю палоску і складваем яе напалавіну (мал. 9). Крайнія яе вуглы складваем, усоўваем іх у шчыліны і так замацоўваем, каб не развярнуліся (мал. 10). Такім спосабам атрымалі казырок шапкі. Цяпер трэба ад сярэдзіны развярнуць шапку. Робім гэта левай рукой. Зверху наша шапка мае два рагі, якія правай рукой складваем на бакі (мал. 11) і засоўваем за палоску. Спярша адзін, потым другі рог таксам замацоўваем. Застаецца ўфармаваць далікатна ад сярэдзіны шапку і, калі ласка, надзець на галаву (мал. 12).

Памятайце! Трэба дакладна і роўна складваць і рабіць заламанні.

Жадаю прыемнай гульні і прыгожай шапкі.

**Ваня Майстар.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 353840, Краснодарский край, г. Славянск-на-Кубани, ул. Крупской, 235, кв. 30. Кошевой Наташе. Дзяўчынка скончыла шосты клас.

* * *

СССР, 344065, Ростов-на-Дону, ул. I Киргизская, 72/31. Уткиной Ирине. Дзяўчынка скончыла пяты клас.

* * *

СССР, 344065, Ростов-на-Дону, ул. Киргизская 5, кв. 119. Полищук Оксане. 10 год.

* * *

СССР, г. Тула. Красноармейский проспект, дом 11, кв. 21. Толкова Оля. Дзяўчынка скончыла шосты клас.

* * *

СССР, 163001, г. Архангельск, ул. Вологодская, 38, кв. 61. Русовой Наташе. Дзяўчынка скончыла чацверты клас.

* * *

СССР, 346527, город Шахты, Ростовской обл., ул. Текстильная 6, кв. 157. Никульшиной Марине. 6 клас. У яе класе многія дзеці хочуць перапісвацца.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. XX Партсьезда, 38. Чернобривцевой Оксане. 11 год.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 21а, кв. 24. Кружнёвой Наташе.

* * *

СССР, 344066, г. Ростов-на-Дону, Новочеркасское шоссе, 12, кв. 716. Петровой Лене. Дзяўчынка скончыла сёмы клас.

* * *

БССР, 220121, г. Мінск-121, вул. Адзінцова, 57, кв. 56. Аксана Гімбіцкая, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 21. Таня Грыгор'ева, 3 клас.

* * *

БССР, 220073, г. Мінск-73, вул. Альшэўскага, 37, к.2, кв. 38. Наташа Катрэева, 10 клас.

* * *

БССР, 220050, г. Мінск-50, вул. Перакопская, 8, кв. 14. Лена Маркус, 5 клас.

(Працяг са стар. 9)

## ГАСПАДЫНЯ

ёмкі яна адчула знявагу і гнеўна спытала:

— Ты кажаш, што я не працую? Па-твойму, карміць Аленку, спаць класці, карміць куранят — гэта не работа? А капусту акучваць таксама не работа? — Таня быццам ідзе ў наступленне, а маленькая Аленка цягне яе за сукенку назад.

Дзяўчынка бяжыць за мячыкам і крычыць здалёку:

— Фу-у! Такая работа!.. Гэта дарослых работа, а ты яшчэ не дарослая!

— А ты і не патрапіш быць дарослай. У цябе няма звычкі працаваць. А праца ў полі вельмі важная. Так кажа мой тата.

— Падумаеш, важная! Мае тата і мама людзей ад смерці вылечваюць. Іхняя праца важнейшая. І мне мама кажа, калі я вырасту, скончу навуку, тады буду працаваць, а цяпер адпачываю.

— А ў якім класе ты вучышся? — пытаецца Таня і хітра прыжмурвае адно вока.

— Я ў пяты перайшла, — ганарыста адказвае дзяўчынка.

— І я ў пяты! — не здаецца Таня. — Відаць, ты кепска вучылася і не ведаеш, што да працы з дзяцінства прывыкаць трэба. Бо калі ў дзяцінстве ленавацца будзеш, то і пад старасць дабра не чакай! — заяўляе Таня. — Нам настаўніца пра гэта гаварыла.

— У горадзе дзеці нічога не робяць, — апраўдваецца дзяўчынка. — Каб ты жыла ў горадзе, то ведала б, што нашы таты і мамы грошы зарабляюць, а дзеці толькі вучацца. Пажыві ў горадзе, тады будзеш ведаць, хто што робіць! — з крыўдаю адвярнулася ад Тані незнаёмка.

— Я не хачу жыць у горадзе! — закрычала Таня ўслед дзяўчынцы. — Там грукат, поўна машын! А ў нас птушкі спяваюць і кветак шмат! — Яна памкнулася яшчэ нешта сказаць, але незнаёмка была ўжо далёка.

Таня ўзяла Аленку за руку, і яны пайшлі дахаты карміць куранят. Малая гаспадыня шчаслівая тым, што жыве на ўлонні прыроды, якая, нібы ласкавая маці, трымае дзяўчынку ў сваіх абдымках. І Таня бязмежна любіць яе.

## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Піша Табе Іра Шырачэнка, вучаніца 5 класа з горада Мінска. Пасылаю Табе сваю фатаграфію, а таксама нататку аб нашай дзіцячай чыгунцы і аб паездцы ў горад Оршу.*

*Я вельмі люблю чытаць „Зорку" і цешуся, калі яна да нас прыходзіць.*

*У нашым клубе „Дружба-неразлі-вадой" вельмі цікава. Тут мы малюем, пішам вершы, апавядачні, танцуем, гуляем у настольныя гульні, выконваем сцэнкі і супольна чытаем „Зорку".*

*„Зорка", перадай, калі ласка, маё прывітанне ўсім дзяўчаткам і хлопчыкам — чытачам „Зоркі"*



### Я — ЮНЫ ЧЫГУНАЧНІК

У нас у горадзе-героі Мінску на Ленінскім праспекце ў парку Чэлюскінцаў ёсць дзіцячая чыгунка: прыгожы будынак вакзала, маленькія цеплавозікі і маленькія вагончыкі. Усё абслугоўваем мы — піянеры мінскіх школ, мы носім прыгожую форму, як дарослыя чыгуначнікі.

Праз усю зіму мы вучымся, а з мая працуем на чыгунцы. Я цяпер правадніца, а пасля буду рэвізорам.

Я займаюся ў гуртку „Юны чыгуначнік". Там вельмі цікава. А наша дзіцячая чыгунка носіць імя Канстанціна Заслонава, слаўнага беларускага партызана.

Нядаўна мы ездзілі ў Оршу. Орша — горад-герой. Яна ўзнагароджана медалямі. Там ёсць помнік К. Заслонаву і таксама ёсць музей Заслонава. На нашай чыгунцы канцавая станцыя таксама носіць імя К. Заслонава.

Летам шмат дзяцей прыязджае на экскурсію ў Мінск і яны катаюцца на нашай чыгунцы. У Оршу мы ездзілі на экскурсію. Туды мы дабіраліся поездам. Горад нам вельмі спадабаўся.

**Іра Шырачэнка**

## АДГАДАНКА



*Малюнак падзелены на 55 квадратаў. Тры з іх зусім аднолькавыя. Знайдзі іх.*



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1

## ПАМЫЛКОВЫ СІГНАЛ

— Забадаеў Васіль Лукіч?

— Ён самы.

— Пройдземце да начальніка.

— А ў чым справа?

— Размова ёсць.

— Калі ласка. Размова дык размова.

— Таварыш Забадаеў, да нас паступіў сігнал, што вы займаецеся крадзяжом тканін, — сурова вымавіў начальнік аховы.

— Вы што?! Якія тканіны?! Што я з імі рабіць буду? Ды ў нашым горадзе...

— Добра, добра, ціш ты... Вы паліто з сябе здыміце, мы вас крыху абшукаем, тады разважаць будзеце.

— Калі ласка. Я распрануся, шукайце колькі ўлезе!

Нічога падазронага не выявіўшы, начальнік аховы папрасіў прабачэння і дадаў:

— Самі разумееце, сігнал неправераным нельга пакідаць.

— Усё правільна, а як жа інакш. Гэта ж ваш хлеб, — узбуджана прагаварыў Забадаеў. Хутка апрануў паліто і выйшаў.

На вуліцы побач з прахадной, ён раптам пачуў:

— Прывітанне, Вася. Ты чаго такі задуменны, сяброў не пазнаеш?..

— А, Пецкя, — убачыў ён прыяцеля. — Разумееш, завялі зараз да начальніка аховы, а той: тканіны з прадпрыемства выносіце. Я, вядома, абурыўся. У нас у горадзе ніводнага прыстойнага ательэ няма. Каму патрэбны тканіны тыя?

— Паліто, Вася, на табе новае. Няправнае паліто. Дзе адхапіў?

— Ды ціш ты, — цыкнуў на таварыша Забадаеў, з асцярогай азіраючыся па баках. — Новае-новае... Давай пойдзем замочым.

Барыс Рабенькі



# НІЎКА



### ПЫТАННЕ І АДКАЗ

— Што такое вусень?

— Гэта чарвяк у кажушку.

### КУЛЬТУРА

А трэцяй гадзіне ночы ў кватэры гучыць тэлефонны званок.

— Ало! Вы, пэўна, ужо спалі?

— Вядома, спаў.

— Тады выбачайце, я пераэваню раніцай.

### У ЗАДРЫПКОЎСКІХ

— На днях у размове са мною ваш муж сцвярджаў, што жыве, як сабака.

— Абсалютна праўдзіва. Ён заўсёды заходзіць у пакой з бруднымі нагамі, садзіцца ля каміна і чакае, калі яго накормяць.

### УСЁ ЯСНА

— Чаму ты не жэнішся? — спытаў юнак старога халасцяка.

— Бачыш, — адказаў той, — калі я быў малады, то вырашыў, што не ажанюся да тых пор, пакуль не сустрэну ідэальнай жанчыны. Прайшло многа гадоў, і вось я сустрэў такую жанчыну. Але тут аказалася, што яна шукае ідэальнага мужчыну.



Made in Zadrypanka.



Плацежаздольны чалавек: плаціць няўдзячнасцю.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Уючтчык да трактарыста:

— Убачыў: каля твайго загону машына старшыні калгаса спынілася. Мабыць, лаяў цябе старшыня?

— Ды не! Спыніўся і прывітаў па-вайсковаму.

— Як гэта?

— Вельмі проста. Прыклаў указальны палец да правай скроні.

*

Настаўнік расказвае аб прамаці Еве:

— Ёй ёсць чым ганарыцца. Яна — адзіная жанчына, якая не хвалілася перад мужам тым, што адкінула прапановы іншых мужчын.

*

— Што будзе, калі скрыжаваць кенгуру з авечкай?

— Скачучы джэмпер.

— А са сланом?

— Вялікія ямы па ўсёй Аўстраліі.

### АПЛЯВУХА

— Учора я, —
Сказаў Мікола Толю, —
Пацалаваў у парку Волю.
— І што яна?
— Такую заляпіла аплявуху,
Аж зазвінела ў левым вуху.
— А ты?
— Я тут жа, брат,
Пакляўся з перапуду,
Што болей цалаваць яе не буду.
— Ну, а яна?
— Ды што яна, —
Сказаў Мікола гэтак глуха, —
Чамусь заехала мне
І ў другое вуха.

Уладзімір Мацвеенка

З „Весніка Задрыпоніі"

### ПАРАДА ПАЧАТКОЎЦАМ

Калі ў вас няма музыкальнага слыху і ніхто не можа пазнаць мелодыю, якую вы напяваеце, не адчайвайцеся і паспрабуйце яе запісаць на нотнай паперы, з вас яшчэ можа выйсці няпрэнны кампазітар.

### АБ'ЯВА

Мяняю кватэру з усімі выгадамі на хату з краю.







— Я пасылаю бутэлечнай поштай пісьмо сваім бацькам, у якім прашу іх згоды на шлюб...

# Курʼёзы

### ЗВАНАЯ ВЯЧЭРА

Вядомы англійскі спявак Том Джойнс аднойчы публічна аб'явіў, што настаянная сцэнічная яго занятасць, турнэ па іншых краінах перашкаджаюць яго сустрэчам са шматлікімі родзічамі, і тыя крыўдуюцца, упікаюць яго ў ганарлівасці, захапленні ўласнай славаю і г.д. Таму ён надумаў неяк хоць адзіны раз сабраць усю блізкую і далёкую радню да сябе ў атэль на званую вячэру. І вось у назначаны дзень іх з'ехалася аж 167 чалавек, толькі дваюрадных і траюрадных братоў і сясцёр было больш за 80. На гэтую вячэру радні спявак страціў больш як дзве з паловай тысячы долараў. Кожнаму з родзічаў ён паспеў паціснуць руку і сказаць нейкае цёплае слова. Стаміўся, як ён паведаміў рэпарцёрам, больш чым на канцэрце. Затое ж праз гэтую арыгінальную вячэру папулярнасць яго яшчэ больш узрасла і яго затраты хутка акупілі сябе.





Галоўная перавага беднасці ў тым, што яна засцерагае ад празмернай колькасці сяброў.